Наш адрас у Інтэрнэце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
3 траўня 2001 г.
№ 18 (514)
Кошт 95 рублёў

## Пошліна – на сарціры!

З першага траўня, паводле рашэння Гарадзенскага аблвыканкама, пры перасячэнні на аўтамататранспарце беларуска-польскай мяжы праз кантрольна-прапускны пункт «Брузгі», збіраецца пошліна ў памеры 400 рублёў з кожнага чалавека.

Плата бярэцца для таго, каб акупіць выдаткі па камунальнаму абслугоўванню грамадзянаў, якія перасякаюць мяжу, захоўваць у належным санітарным стане тэрыторыі, што прылягаюць да мяжы, інжынерныя сеткі і збудаванні памежнага пераходу «Брузгі». Як паведамілі ва ўпраўленні жыллёва-камунальнай гаспадаркі Гарадзенскага аблвыканкама, заплаціць збор можна адразу на мяжы ў кіёсках прадпрыемства «Мяжа».

Павал Мажэйка

## Як «Гандальмаш» труціў рыбу

**Неспадзяваная непрыемнасць чакала работнікаў і наведвальнікаў гарадзенскага заапарку 25 красавіка.**

- Зранку, калі ўсе прыйшлі на працу, на паверсе амаль усёй плошчы мясцовага вадаёма і ўз берагоў плавала «пузам даверху» здохлая рыба, - расказвае дырэктарка заапарку Цэліна Пагерыла, - пра што мы адразу паведамілі ў Гарадзенскую гарадскую інспекцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Супрацоўнікі гэтай службы неадкладна адрэагавалі на паступіўшую заяву і ўжо праз паўгадзіны ўзялі пробу з вады вадаёма ў заапарку. Як паведаміла ПАГОНІ начальніца Гарадзенскай гарадской інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Ірына Алёхіна, «ва ўзятай пробе была выяўлена вялікая канцэнтрацыя аміяку, які быў выкінуты заводам «Гандальмаш».Гэта і сталася прычынай гібелі рыбы. У пятніцу на заводзе намі была аплямбаваная вытворчасць, дзе выкарыстоўвалі аміяк». Паводле яе словаў, аміяк распускаецца ў вадзе, і вялікай пагрозы такая канцэнтрацыя хімікату для ракі Нёман не нясе.

Застаецца дадаць, што гэта ўжо трэці выпадак (першыя два адбыліся ў кастрычніку 1999 года), калі пасля выкідаў вытворчых адходаў у Гараднічанку ў заапарку гіне рыба.

Захар Штрэна

## «Медык» трымаюць у чорным целе


Міхаіл Ешчык

**Жыхар Гродна Міхаіл Ешчык падаў на імя старшыні Гарадзенскага гарвыканкама Анатоля Пашкевіча заяву з просьбай дазволіць яму правесці пікет ля абласнога ўпраўлення аховы здароўя, якое знаходзіцца ў будынку Гарадзенскага аблвыканкама.**

Міхаіл Ешчык, які працуе інжынерам-наладчыкам унітарнага прадпрыемства «Медык», збіраецца пікетаваць упраўленне з плакатам «За абслугоўванне лячэбных установаў - своечасовую выплату заработнай платы». Свае дзеянні ён абгрунтоўвае тым, што абласное ўпраўленне аховы здароўя пастаянна затрымлівае пералічэнне грашовых сродкаў за выкананыя «Медыкам» работы.

У выніку гэтага 370 супрацоўнікам прадпрыемства пастаянна затрымліваецца зарплата. Так, на пачатак траўня яшчэ не выплачаны заробак за сакавік. Акрамя таго, паводле словаў Міхаіла Ешчыка, пачынаючы са студзеня месячны заробак работнікам прадпрыемства выплочваецца трыма этапамі, па меры паступлення грошай.

Павал Мажэйка




3, 4 траўня - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў, раніцою магчымы туман, вецер няўстойлівы, 1-6 м/с. Тэмпература паветра 3 траўня уначы +2...+7, удзень +17...+22, 4 траўня уначы +4...+9, удзень - +21...+26.

# Самая прыгожая ў Гродне – Алена Кардаш!


Каралева прыгажосці Алена Кардаш у атачэнні каралеўскай світы: І-ая Віцэ-міс Вольга Сакалінская (злева), ІІ-ая Віцэ-міс Эліна Карчэмная (справа)

Працяг тэмы - на стар. 5

# Дырэктар «Альформы» прайграў падначаленым

**Згодна з рашэннем Ленінскага суда горада Гродна, дырэктару фірмы «Альформа» бліжэйшым часам давядзецца выплаціць тром сваім былым падначаленым зарплату за вымушаны прагул і аднавіць іх на рабоце.**

Адразу пасля зачытання рашэння суда ў мінулую суботу Наталля Флеева, Ірэна Байрашэўская і Людміла Немкіна накіраваліся на працу - у цэх перапрацоўкі крэветак, з якога былі незаконна звольненыя ў сярэдзіне студзеня гэтага года. Тады з-за спынення паставак крэветкі галандскай фірмай «Голдфіш» былі звольненыя каля семісот(!) жанчынаў. Толькі 17 з іх вырашылі абараняць свае правы ў судзе. Два тыдні таму суд абавязаў дырэктара «Альформы» Аляксандра Леха выплаціць спазысчыцам сярэдні заробак за тры месяцы, што склала каля 150 тысяч рублёў кожнай. Аднак, трое жанчынаў палічылі, што гэта яшчэ не ўсё, што павінен ім дырэктар, і падалі спазыскі ў Ленінскі раённы суд, у якіх патрабавалі аднаўлення на рабоце, сярэднюю зарплату за тры месяцы і выплаты кампенсацыі за маральны ўрон. Усе гэтыя патрабаванні судом былі задаволеныя: Немкіна павінна будзе атрымаць 210 тысяч заробку, Флеева - 170, Байрашэўская - 160. Усе жанчыны аднаўленыя на працы, за маральны ўрон дырэктар павінен будзе выплаціць усім траім па 10 тысяч рублёў.

Грамадскі абаронца жанчынаў, прадстаўнік Свабоднага прафсаюза Аляксандр Чарней так каментуе «справу крэветачніцаў»:

- Толькі веданне законаў і сваіх правоў дапаможа абараніць сябе. З сямісот звольненых з «Альформы» толькі тры чалавекі пайшлі да канца - і выйгралі справу, не дазволіўшы сябе падманваць. Так і ў нас у рэспубліцы: прыкладна такі ж працэнт - 3 з 700 - думаюць, астатнія - як паслухмяныя авечкі ідуць, куды ім укажуць.

Лідарка Свабоднага прафсаюза на «Альформе» Ірэна Байрашэўская не задаволілася санкцыямі суда да дырэктара і падае асобны спазыск за маральны ўрон. Так што справа яшчэ будзе мець працяг...

Алена Сіневіч

## Арлоў прызямліцца ў «Паходні»

Сёння а 19-й гадзіне на пасяджэнні гісторыка-культурнага клуба «Паходня» ў Гарадскім доме культуры адбудзецца сустрэча з вядомым беларускім пісьменнікам Уладзімірам Арловым, які запрэзентуе свае кнігі «Адкуль наш род» і «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі». Запрашаюцца ўсе ахвотныя.

Людвік Сарока

## «Беларусачку-2001» вызначаць у Гродне

**Сёння а 17-й гадзіне ў зале Гарадскога дома культуры адбудзецца конкурс прыгажосці і чароўнасці «Беларусачка-2001».**

Лепшая з лепшых будзе вызначацца па шасці намінацыях. Галоўны прыз дастанецца той, якая атрымае перамогу ў намінацыі «Гарадзенская беларусачка». Спонсары конкурсу ўшануюць пераможцаў у намінацыях «Беларускі стыль», «Умелая гаспадынька», «Беларуская чароўнасць», «Надзея эстрады» і «Купалінка».

Алена Сіневіч

## Геі змагаюцца за свае правы

**Сёння а 17-й гадзіне ў памяшканні Гарадзенскага грамадскага аб'яднання «Ратуша» пачнецца адкрыты семінар «Досвед барацьбы беларускіх і шведскіх геяў за свае правы».**

Арганізуюць і праводзяць семінар галоўны рэдактар беларускага часопіса геяў і лесбіянак «Forum Lambda» Эдвард Тарлецкі ды Міжнародны сакратар Шведскай асацыяцыі сексуальнай роўнасці (RFSL) Сціг Оке Петэрсан. Падобныя мерапрыемствы пры фінансавай падтрымцы Шведскага дзяржаўнага агенцтва па развіцці (SIDA) ужо адбыліся ў іншых абласных цэнтрах нашай краіны.

Як паведаміў ПАГОНІ Эдвард Тарлецкі, арганізатары семінара (праз стварэнне ініцыятыўных групаў на месцах) імкнуцца да стварэння і рэгістрацыі афіцыйнай агульнабеларускай арганізацыі геяў і лесбіянак, якая будзе змагацца за іх правы.

Адам Гонар

# Хто ў апале: экалогія ці «Трэці Сэктар»?

**Быць ці не быць гідраэлектрастанцыі на Нёмане? Такой будзе тэма першых публічных слуханняў, арганізатарам якіх выступіла экалагічная група грамадскага аб'яднання «Цэнтр Трэці Сэктар». Слуханні пачнуцца сёння, а палове 14-й гадзіны па адрасе Будзёнага 48-а, у памяшканні «Польскай Мацежы Школьнай», а не ў Доме навукі і тэхнікі, як планавалася раней.**

Ініцыятарам дыскусіі выступіла аб'яднанне «Гродна-энерга». Якім чынам плаціны - неад'емная частка ГЭС - могуць паўплываць на экалагічны стан рэгіёну? Ці варта ўвогуле выкарыстоўваць Нёман як крыніцу электраэнергіі? Пра гэта будуць дыскутаваць запрошаныя спецыялісты, гідролагі ды эколагі, а таксама незалежныя эксперты.

На мерапрыемства былі запрошаныя і чыноўнікі з гар- і аблвыканкама. Аднак, вертыкальшчыкі палічылі, што экалагічная тэматыка не вартая іх увагі. Больш таго, чыясьці «клапатлівая рука» набрала нумар тэлефону Дома навукі і тэхнікі, дзе планавалася правесці мерапрыемства, і голас у слухаўцы паведаміў, што «мерапрыемства не ўзгоднена з гарвыканкамам, таму праводзіць яго нельга».

- За два тыдні да мерапрыемства была заключаная дамова аб арэндзе залы ў Доме навукі і тэхнікі, - распавядае Ніна Палуцкая, каардынатар праекту. - Мы пералічылі грошы, запрасілі людзей, зрабілі рэкламную кампанію. 29 красавіка, у суботу, мне патэлефанавалі з Дома тэхнікі і паведамілі, што дамова з намі разарваная.

Уладзімір Амельчанка, намеснік дырэктара Дома навукі і тэхнікі, якому «патэлефанавалі», паведаміў, што рашэнне аб адмове ў арэндзе прымала дырэктарка.

- Мне толькі сказалі, што мерапрыемства не ўзгоднена, ёсць нейкі закон такі, - гаворыць Галіна Андрашчук, дырэктарка Дома тэхнікі. - А грошы мы «Трэцяму Сэктару» адразу вярнулі...

Самае цікавае ў гэтай гісторыі тое, што ніхто з супрацоўнікаў Дома тэхнікі не здолеў назваць ні імя, ні прозвішча асобы, якая адным тэлефонным званком прымусіла разарваць дамову аб арэндзе. Кіраўніцтва Дома тэхнікі паведаміла толькі, што гэта быў чалавек з гарвыканкама, «ці то з аддзелу па сувязях з грамадскасцю, ці то з аддзелу па працы з грамадскімі аб'яднаннямі». Ні аднаго, ні другога аддзелу ў гарвыканкаме няма.

Загадчык аддзелу па інфармацыі Сяргей Дубавец параіў шукаць адказы на ўсе пытанні, звязаныя з гэтай гісторыяй, у... Доме тэхнікі.

Кола замкнулася. Пытанні засталіся. Можа, бюракраты адчуваюць сваё бяссілле ў вырашэнні такіх праблемаў, як гідраэнергетыка і экалогія? А мо ўлады вельмі раздражняе тое, што важнымі справамі імкнуцца займацца грамадскія арганізацыі?

Юлія Дарашкевіч

# Першамайскі ідыятызм




**Першага траўня, падчас святкавання ў Гродне сусветнага Дня працоўных, гарадзенскія міліцыянты затрымалі больш як 20 чалавек. Тэатральнае дзейства, учыненае ментамі, уражвала сваёй дзікасцю - маладым людзям, якія трымалі апазіцыйныя сённяшняму рэжыму сімвалы, жорстка заломвалі рукі і, на вачах у прысутных, у тым ліку школьнікаў і малых дзяцей, груба выцягвалі з плошчы Леніна.**

А 10-й гадзіне ў аўторак на плошчы Леніна ў Гродне пачалося тое, што задумалася як выказванне вялікай падзякі дзяржаве шырокіх пластоў насельніцтва горада за бязмежны клопат аб працоўным чалавеку. На прыступках, каля правадыра, ганарова прэла ў чорных пінжаках з кумачом усё кіраўніцтва Гродна, на чале са старшынём гарвыканкама Анатолем Пашевічам. На плошчы са сцягамі і сцяжкамі, шарыкамі і плакатамі «Міру - мір» мітусіліся некалькі соцень ветэранаў, школьнікаў і студэнтаў, якіх зноў (які ўжо раз!) сагналі па разнарадцы на плошчу стварaць масавасць.

Заклік уладаў прыняць удзел у мітынгу прынялі, праўда, па сваёй волі, і сябры шэрагу апазіцыйных партыяў і моладзевых арганізацыяў горада. Прыйшлі яны, канечне ж, з зарэгістраванымі бел-чырвона-белымі сцягамі і ўлёткамі «Чарка ды шкварка - вось і ўся мінімалка», дзе даходліва тлумачыўся «эканамічны рост» у Беларусі за апошнія сем гадоў.

Чым бліжэй бел-чырвона-белыя сцягі набліжаліся да чарговага ура-выступоўцы, тым больш твар Анатоля Пашкевіча чырванеў. «Прыбраць! Знішчыць! Раздушыць!» - відавочна гэтыя словы прашаптаў ён свайму суседу. І верныя служкі кінуліся выконваць загад.

Два здаровыя сівыя мужыкі ў цывільным з нейкай асаблівай злосцю заломваюць рукі актывістцы «Маладой Грамады» Святлане Нех і цягнуць яе праз усю плошчу. Дзяўчына крычыць ад болю на ўвесь голас, а ў гэты час старшыня гарадскога Савета дэпутатаў Фёдар Гудзей, загартаваны генерал, утаропіўшыся ў паперку, працягвае бурчэць пра «успехи в экономике».

- За што забіраеце чалавека? - пытаюся ў чарговай «парачкі» ў цывільным, якая цягне з натоўпу маладога хлопца.

- За сцяг, - цэдзіць скрозь зубы, відаць па ўсім, старэйшы па званні, і, учапіўшыся свабоднай рукою ў мой дыктафон, спрабуе ляснуць яго аб брук. Не атрымліваецца...

Наступныя некалькі хвілінаў становяцца «зорным часам» падпалкоўніка Шмакава. Інтэлігент-падпалкоўнік ці то пад уздзеяннем спякотнага сонца, ці то з-за нейкіх загадаў, што чуваць у эфіры рацыі, проста зрываецца...

- Ён ударыў міліцыянта палкай, - з надрывам у голасе крычыць афіцэр, паказваючы ў бок Валянціна Аскіркі, старшыні «Маладой Грамады», які мірна трымае лозунг «За годнае жыццё ў Беларусі!». Навокал, метры на чатыры-пяць, не відаць ніводнага супрацоўніка міліцыі, таму застаецца незразумелым, каго і чым ударыў Валянцін. Яго скручваюць падбегшыя міліцыянты і цягнуць у машыну. Разгубленасць бачыцца ў вачах ветэранаў, якія ўжо не ведаюць, каго цяпер ім называць «фашыстамі».

Па дарозе да машыны Шмакаў налятае на журналіста «Біржы інфармацыі» Міхаіла Карневіча:

- Так, ён мяне штурхнуў, узяць яго, - не супакойваецца падпалкоўнік.

І журналіста таксама закідваюць у варанок.

Пасля гэтага «за кампанію» забіраюць яшчэ некалькі чалавек, у іх лік трапляю і я.

У пастарунку Ленінскага РАУСу, акрамя затрыманых на мітынгу, знаходзіцца лідар «Маладога Фронту» Вадзім Саранчукоў. Ён быў затрыманы яшчэ на падыходзе да плошчы. Прычынай стаў зарэгістраваны сцяг БНФ «Адраджэньне», што быў пры ім.

Прыблізна ў 11.15, пасля заканчэння мітынгу, цікавасць міліцыянтаў да затрыманых знікае. На некалькіх маладафронтаўцаў складаюць пратаколы аб затрыманні, астатніх выпускаюць пасля ўдакладнення пашпартных дадзеных. Запамінаецца толькі лейтэнант, што прысеў побач пачытаць улётку - ад яго страшэнна патыхае перагарам.

Апошнім адпускаюць з пастарунку Валянціна Аскірку. На яго склалі пратакол аб адміністрацыйным парушэнні. Абвінавачваюць у арганізацыі бойкі і непадпарадкаванні дзеянням міліцыі. Пратакол Валянцін не падпісаў.

**Павал Мажэйка**

**На здымку: тых, хто стаяў пад «правільнымі» сімваламі, - тых не чапалі...**

# Домаш патрабуе эфіру

**Другога траўня Сямён Домаш, магчымы кандыдат у Прэзідэнты Беларусі, накіраваў на імя старшыні Белтэлерадыёкампаніі Віктара Чыкіна заяву, дзе патрабуе прадаставіць яму эфір у праграме Юрыя Азаронка «Тайныя спружыны палітыкі». Паводле словаў Сямёна Домаша, 28 красавіка 2001 года ў праграме Юрыя Азаронка «прагучалі не пацверджаныя здагадкі ды паклёп, якія ганьбяць мае гонар, годнасць».**

- Усе намаганні ўладаў знайсці на мяне кампрамат безвыніковыя. І таму рэжым, карыстаючыся манаполіяй на тэлеэфір, працягвае распаўсюджваць звесткі, у якіх няма ні кроплі праўды, - заявіў Сямён Домаш карэспандэнту ПАГОНІ.

У праграме ў ліку іншых былі выкарыстаныя звесткі з публікацыі ў «Народнай газеце» ад 17 снежня 1996 года, якая называлася «Зігзагі Сямёна Домаша». Аднак, гэтыя звесткі яшчэ ў лютым 1998 года былі абвергнутыя ў судовым парадку. Сямён Домаш лічыць, што калі Белтэлерадыёкампанія і яе старшыня Віктар Чыкін хоць крыху лічацца з законам, то яны павінны прадаставіць яму эфір для абвяржэння ілжывых звестак.

**Іван Паўловіч**

# Статкевіч ачышчаецца?

**Дзіўная сітуацыя зараз назіраецца ў Гарадзенскай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Старшыня гэтай партыі Мікалай Статкевіч палічыў, што партыйныя арганізацыі Гарадзенскай вобласці не падтрымалі яго ідэі ўдзелу ў апошніх выбарах у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ. Пасля яго паразы ў гэтым фарсе гарадзенцы выказаліся за пераабранне партыйнага кіраўніцтва, якое, на іх думку, не мае права на існаванне.**

Паколькі пераканаць сябраў партыі гэтага рэгіёна, каб яны бездакорна выконвалі пажаданні былога вайскоўца не прайшлі, Статкевіч распачаў тактыку стварэння альтэрнатыўных арганізацыяў. Падобная практыка, дарэчы, была апрабаваная на магілёўскай гарадской арганізацыі. Істотную дапамогу старшыні аказаў намеснік Уладзімір Нісцюк. Ён звярнуўся да сваіх прыхільнікаў, што ў 1994 годзе ўваходзілі ў склад грамадскага руху ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі «Ачышчэнне» і тыя, пасля сямігадовага палітычнага небыцця, адгукнуліся. Напачатку, у парушэнне Статута партыі вышэйшыя яе органы прынялі ў сябры БСДП (НГ) двух гарадзенцаў. Гэта стала падставай для стварэння суполкі па інтарэсах з даволі-такі дзіўным накірункам.

Нягледзячы на тое, што сацыял-дэмакраты ўсяго свету выступаюць як абаронцы працоўных, і тое дэкларавала ў сваіх праграмных дакументах БСДП (НГ), новаўтвораная гарадзенская суполка паўстала ў падтрымку прафсаюзнага руху. За адзін месяц склад новаўтворанай суполкі пашырыўся да 27 чалавек з былых «ачышчэнцаў». Прычым, гэтыя людзі дзейнічалі аўтаномна і ўпотай ад іншых сябраў партыі.

На апошнім пасяджэнні Выканаўчага бюро ў парушэнне статута партыі адбываецца рэгістрацыя яшчэ дзвюх новых раённых суполак Гродна. Загад па-вайсковаму выкананы дакладна: кожная суполка мае па дзесяць сябраў.

Як заявіў на гэтым пасяджэнні старшыня партыі Мікола Статкевіч, тыя больш як 70 «старых» сябраў гарадзенскай гарадской арганізацыі БСДП (НГ), а некаторыя з іх маюць дзесяцігадовы партыйны стаж, навуковыя званні ці ўзначальваюць на сваіх прадпрыемствах арганізацыі незалежных прафсаюзаў, павінны далучыцца да «ачышчэнцаў».

**Міхась Карпейчык**

# Выбар моладзі

**Дзесяць моладзевых арганізацыяў Гародні аб'ядналіся ў кааліцыю «Твой выбар!». Галоўнай прычынай аб'яднаньня стала патрэба скаардынаваць дзеяньні напярэдадні прэзыдэнцкай кампаніі.**

У кааліцыю ўвайшлі Малады Фронт, Маладая Грамада, Моладзь АГП, Грамадзянскі Форум, Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў, Моладзевы хрысьціянскі сацыяльны саюз ды іншыя арганізацыі.

Сябры кааліцыі вырашылі агульнымі намаганьнямі праводзіць кампанію па прыцягненьні моладзі да ўдзелу ў маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбарах. Пасьля вылучэньня кандыдатаў на прэзыдэнцкую пасаду кааліцыя будзе падтрымліваць адзінага кандыдата ад аб'яднанай апазыцыі.

**Юлія Дарашкевіч**

# Зварот падпісаны, чакаем адзінага кандыдата

**25 красавіка пяць прадстаўнікоў «шырокай грамадскасці», магчымых кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта Беларусі, склалі да грамадзянаў Беларусі сумесны зварот. Сямён Домаш, Уладзімір Ганчарык, Сяргей Калякін, Павел Казлоўскі і Міхаіл Чыгір абвясцілі пра дасягнутую дамоўленасць па каардынацыі сваіх дзеянняў «дзеля дасягнення агульнай мэты - перамогі на будучых прэзідэнцкіх выбарах».**

Сямён Домаш, магчымы кандыдат на пасаду Прэзідэнта Беларусі, лічыць, што зварот, безумоўна, запознены, але ўжо тое, што ён з'явіўся - добра.

***- Сямён Мікалаевіч, пытанне пра адзінага кандыдата, як і раней, застаецца адкрытым, пра якія тады вынікі гэтага звароту можна казаць?***

- Пакуль што размова ідзе толькі пра каардынацыю дзеянняў у розных накірунках. У першую чаргу - гэта падрыхтоўка агульнымі намаганнямі назіральнікаў. Па-другое, праца з выбарчымі камісіямі па фармаванні гэтых камісіяў. Каб у іх склад уваходзілі прадстаўнікі дэмакратычных сілаў, якія здолеюць не дапусціць фальсіфікацыяў. І, магчыма, агульная прапаганда супраць нашага галоўнага канкурэнта - Аляксандра Лукашэнкі. Вось менавіта па гэтых трох накірунках мы і будзе праводзіць каардынацыю нашых дзеянняў.

Калі і як будзе адбывацца вылучэнне адзінага кандыдата, пра гэта гаворкі мы яшчэ «пяцёркай» не вялі. Бо «чацвёркай» мы ўжо дамовіліся. Калякін таксама за тое, каб ісці на выбары праз збор подпісаў за кожнага паасобку. Не выключана, што гэты зварот і ёсць пачатак стварэння перадвыбарнага блоку.

***- Гэта значыць, што пункты, пазначаныя ў звароце, яшчэ нельга разглядаць як агульную платформу дэмакратычных сілаў?***

- Не, апроч галоўных прынцыпаў, агучаных у звароце, пра нейкія агульныя, канкрэтныя дзеянні і пра аб'яднанне размовы яшчэ не вялося.

***- Сямён Мікалаевіч, пад зваротам падпісаўся і лідар камуністаў Сяргей Калякін. Не так даўно ён заяўляў, што гатовы аб'яднацца з кім заўгодна, толькі не з Домашам. Чым выклікана ягонае з'яўленне сярод падпісантаў звароту?***

- Часта бывае, што ў пададзеным інтэрв'ю друкуюць не зусім тое, што ты гаворыш. Але ва ўсякім разе, калі мы раіліся падчас падпісання звароту, ніякіх канфліктаў, супярэчанняў з боку Калякіна не было. Проста былі ягоныя асцярогі, што гэты крок могуць не зразумець у партыі. Але калі мы папрацавалі над тэкстам звароту, дык стала відавочна, што ён адпавядае ўсім прагрэсіўным сілам у Беларусі.

***- Ці ўзнікалі па нейкіх пунктах звароту спрэчкі? Найбольш цікавіць пункт, дзе ідзе гаворка пра Саюз Беларусі ды Расеі?***

- Асноўныя пункты ўсіх задаволілі. І нават пункт адносна Саюзу, які мог выклікаць пэўныя рознагалоссі ды непаразуменні. У гэтым пункце размова не ідзе пра адзіную дзяржаву, а толькі пра актыўнае эканамічнае супрацоўніцтва дзвюх незалежных дзяржаваў.

**Сёння, 3-га траўня, «пяцёрка» палітыкаў дае ў Менску агульную прэс-канферэнцыю. Плануецца, што будзе выкладзеная канкрэтная праграма бліжэйшых дзеянняў «пяцёркі» магчымых кандыдатаў. Спіс «пяцёркі» не канчатковы. Не выключана, што далучыцца яшчэ нехта. Аднак, відавочна, што магчымыя кандыдаты цяпер будуць жорстка падыходзіць да новага прэзідэнта.**

**Ул. Інф.**

# Вакантнае месца не вабіць

**Ужо болей як тры месяцы застаецца вакантнай пасада начальніка ўпраўлення па кіраванні горадам Мастоўскага райвыканкама. Тыя, каму было прапанавана крэсла мэра, далікатна адмовіліся ад пасады, іншыя нават спасылаліся на малы аклад.**

Раней гэтую пасаду займаў Аляксандр Цярэшка. Але 26 студзеня ён нечакана для многіх супрацоўнікаў райвыканкама напісаў заяву на звальненне па ўласнаму жаданню. Просьба яго была адразу задаволена. А ўжо 29 студзеня над апошнім адбыўся суд. Суд быў хуткім, спрыяла таму таемнасць следства. Адзін з эпізодаў дзейнасці мэра каштаваў яму 100 мінімальных заробкаў: такім быў вырак суда. Аляксандр Цярэшка не абскардзіў судовае рашэнне ў тэрмін, адведзены законам, і таму прысуд набыў сілу. Такім прысудам была задаволена і Марына Рассеннік, якая прадстаўляла Мастоўскую пракуратуру ў судзе.

Як патлумачыў суддзя Мікалай Герасімчык, які вёў справу, былы мэр Мастоў быў асуджаны паводле артыкула 166 ч.2 (старога Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, што дзейнічаў да 2001 года) за злоўжыванне службовым становішчам. Прычым, адзначыў суд, здзейсніў ён тое разам з іншай зацікаўленасцю. Дарэчы, частка 2 артыкула 166 у старой трактоўцы гучыць так: «Злоўжыванне ўладаю ці службовым становішчам, калі яго здзейснена асобаю, якая займае адказнае становішча ці пры здзяйсненні функцыяў пры раздзяржаўліванні ці прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці ці выклікала цяжкія наступствы карэцца пазбаўленнем волі да 8 гадоў». Як патлумачылі юрыдычна дасведчаныя людзі, у такім выпадку таксама могуць быць грашовыя налічэнні. Але тады ў дзеянне ўваходзіць артыкул 42 таго ж закону, які дазваляе больш мяккае пакаранне, чым прадугледжана законам. Тады суд мусіць улічваць выключныя абставіны справы і асобу вінаватага, што павінна быць патлумачана ў рашэнні суда. Суддзя Герасімчык не даў ніякіх вусных тлумачэнняў наконт нейкіх выключных абставінаў справы і не расказаў пра незвычайныя заслугі былога мэра, якія прыняў да ўвагі суд.

Перад гэтай уладаю ў былога мэра былі заслугі. У свой час былы дырэктар пятай гарадской школы, які толькі заняў пасаду кіраўніка горада, катэгарычна адмовіў прадстаўнікам мясцовага ТБМ у перайменаванні гарадскіх вуліцаў. Пэўна, гэта было правільнае рашэнне. Бо за восем гадоў гаспадарання Аляксандр Цярэшка так і не знайшоў магчымасці заасфальтаваць іх. Таму бальшавіцкія назвы іх больш адпавядаюць зместу.

Аляксандра Цярэшку асудзілі хутка. Гэта дазваляе новы Працэсуальна-крымінальны кодэкс: калі пацярпелы прызнае сябе вінаватым, то суд можа не разглядаць акалічнасці справы.

Падсудны не пажадаў падрабязнага разгляду сваіх супрацьзаконных дзеянняў і пагадзіўся з абвінавачваннем. Пакаранне палічыў для сябе прымальным, бо ў мінулым годзе давялося панесці большыя страты. Тады наўмыснікі, скарыстаўшы падробленым ключ, прабраліся ў ягоную кватэру і вынеслі значную суму валюты.

Хуткі суд над мастоўскім мэрам пазначыў у сваім рашэнні, што асуджаны дзеля дасягнення сваіх мэтаў між іншым займаўся самай звычайнай падробкай дакументаў. У выніку - патрэбныя людзі атрымалі кватэры.

**Міхась Карпейчык**




# Штогадовая сустрэча каталіцкай моладзі прайшла ў Гродне

**З 29 красавіка па 1 траўня ў Гродне праходзіла дыяцэзіяльная сустрэча моладзі каталіцкага веравызнання пад дэвізам «Каб не панізіць крыжа Хрыстова».**

У першы дзень у Гродне хлопцы і дзяўчаты з розных гарадоў і каталіцкіх прыходаў вобласці маліліся ў Фарным касцёле. Набажэнства праводзіў гарадзенскі біскуп Уладзімір Хуляй. А 30 красавіка некалькі тысяч маладых каталікоў ладзілі хрэсны ход у вёсцы Адамовічы Гарадзенскага раёна. Такія сустрэчы моладзі з малебнамі і хрэсным ходам праходзяць штогод у розных мясцінах Гарадзеншчыны. У гэтым годзе у сустрэчы ўзялі ўдзел каля 20-ці моладзевых групаў з Ліды, Ваўкавыска, Навагрудка ды іншых гарадоў вобласці.

**Алесь Зарэмбюк**

# Дазволілі звяртацца са скаргамі на дзеянні ды рашэнні органа дазнання, следчага - у суд

**Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне «Аб праве грамадзянаў на зварот у суд па пытаннях, якія ўзнікаюць у сувязі з ажыццяўленнем крымінальна-працэсуальных адносінаў».**

У рашэнні Канстытуцыйнага суда Беларусі замацавана, што ўлічваючы непасрэдны характар дзеяння нормаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, грамадзяне маюць права на падставе артыкулаў 60, 137 Канстытуцыі ў сілу яе вяршэнства звяртацца са скаргамі на дзеянні ды рашэнні органа дазнання, дазнавальніка або следчага не толькі да пракурора, але і ў суд у мэтах абароны сваіх правоў і свабодаў, гарантаваных Канстытуцыяй. Канстытуцыйны суд Беларусі рэкамендаваў Нацыянальнаму сходу Беларусі ўнесці змены і дадаткі ў крымінальна-працэсуальнае заканадаўства, замацаваўшы ў ім права на абскарджанне дзеянняў і рашэнняў органа дазнання, дазнавальніка або следчага не толькі пракурору, але і ў суд, а таксама вызначыць у такіх выпадках працэдуру звароту грамадзянаў па судовую абарону.

На наш погляд, істотныя змены закрануць перш за ўсё «яшчэ свежы» Крымінальна-працэсуальны кодэкс Беларусі, а менавіта артыкулы 139 і 143. Справа ў тым, што Крымінальна-працэсуальны кодэкс дапускае магчымасць абскарджання ў суд дзеянняў асобы, якая праводзіць дазнанне, або следчага толькі ў выпадках спынення папярэдняга расследавання справы, крымінальнага пераследу ці выкарыстання мераў стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту, хатняга арышту або падаўжэння тэрмінаў выкарыстання такіх мераў. Ва ўсіх іншых выпадках Крымінальна-працэсуальны кодэкс прадугледжвае абскарджанне дзеянняў і рашэнняў органаў дазнання, дазнавальніка і следчага толькі пракурору. Цяпер жа, згодна з рашэннем Канстытуцыйнага суда, па-першае, можна звяртацца са скаргамі на дзеянні ды рашэнні органа дазнання, дазнавальніка або следчага ва ўсіх выпадках; па-другое, звяртацца са скаргамі можна не толькі да пракурора, але і ў суд.

Вышэйразгледжанае намі рашэнне Канстытуцыйнага суда Беларусі - ужо другое з пачатку красавіка. Першае таксама датычыла магчымасці судовага абскарджання: Канстытуцыйны суд вырашыў, што асуджаныя да пазбаўлення волі, якія абскардзілі накладзеныя на іх спагнанні і не згодныя з прынятым у дачыненні да іх рашэннем, маюць права на падставе артыкулаў 60 і 137 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь звяртацца са скаргамі ў суд.

Думаецца, абодва рашэнні Канстытуцыйнага суда Беларусі, вельмі важныя, бо Крымінальна-працэсуальнае і Крымінальна-папраўчае заканадаўства ва ўказаных вышэй аспектах не замацоўвае мажлівасці абароны грамадзянамі Рэспублікі Беларусь сваіх правоў і свабодаў у судовым парадку. Цяпер жа такая магчымасць павінна быць замацавана, а суд павінны кіравацца артыкуламі 40, 60, 112, 137 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Бо норма Канстытуцыі - норма прамога дзеяння.

Застаецца «толькі» самае галоўнае - каб абарона правоў і свабодаў грамадзянаў Рэспублікі Беларусь ажыццяўлялася кампетэнтным, незалежным і справядлівым судом у акрэсленыя законам тэрміны і каб суддзі пры здзяйсненні правасуддзя былі незалежнымі і падначальваліся толькі закону.

**Кацярына Зволін**

# І да Тэхаса падаць рукой!

**Ужо на працягу некалькі гадоў на базе гарадзенскай школы-гімназіі нумар 30 праходзіць міжнародная канферэнцыя па экалагічных пытаннях.**

Вось і 27-га красавіка ў трыццатую школу з'ехаліся 10-16-гадовыя школьнікі Кастрычніцкага раёна, каб праз Інтэрнет пагутарыць са сваімі равеснікамі з ЗША.

Як адзначыў арганізатар гэтага мерапрыемства Міхась Фрыдман, гэтая канферэнцыя аднachасова прайшла амаль у адзін час у музеі натуральнай гісторыі горада Нью-Ёрка, у тэхаскім універсітэце і некалькіх гарадах штата Фларыды. Галоўнай мэтай канферэнцыі з'яўляецца папулярызацыя ідэяў аб здаровым ладзе жыцця моладзі ўсёй планеты, а значыць аб здаровым ладзе жыцця планеты.

**Захар Штрэна**

# Па заробку дасягнулі сакавіка 98 года

**У сакавіку гэтага года ў параўнанні з лютым сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых павялічылася з 73,1 да 81,46 даляра ЗША ў пераліку па рынкачнаму наяўнаму курсу. На падобны ўзровень зарплата не ўзнімалася з сакавіка 1998 года.**

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, у рублёвым выражэнні зарплата ўзрасла з 91.559 да 107.020 рублёў, ці на 16,9 працэнта. Гэта абумоўлена ў асноўным павелічэннем мінімальнай зарплаты з 1 сакавіка. Аднак неабходна адзначыць, што рост зарплаты адбыўся на фоне адмены шэрагу даплат работнікам бюджэтнай сферы, і некаторыя з іх у выніку атрымалі нават менш, чым у лютым. За першы квартал 2001 года сярэдняя налічаная зарплата рабочых і служачых вырасла на 16,4 працэнта ў намінальным выражэнні і на 2,9 працэнта - у рэальным (з улікам афіцыйнай інфляцыі). Акрамя таго, тэмпы росту зарплаты аказаліся вышэйшымі за тэмпы росту рынкачнага наяўнага курсу даляра на 8,1 працэнта. У пераліку па рынкачнаму безнаяўнаму курсу зарплата павялічылася з 73,5 да 81,7 даляра, па афіцыйнаму - з 73,5 да 82,6. Для даведкі: у сакавіку 2000 года сярэднямесячная налічаная зарплата рабочых і служачых складала 51,5 даляра ў пераліку па рынкачнаму наяўнаму курсу, 48 даляраў - па рынкачнаму безнаяўнаму і 111 даляраў - па афіцыйнаму.

**Дзмітрый Уласаў**

# Заахвочванне для лепшага следчага - грамата і 10 000 рублёў

**26 красавіка ў госці да студэнтаў чацвёртага курса юрыдычнага факультэта Гарадзенскага дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы завітаў лепшы следчы мінулага і пазамінулага года - старшы следчы ўпраўлення фінансавых даследаванняў Мікалай Аліхвер.**

Напачатку сустрэчы спадар Аліхвер расказаў пра дзейнасць, мэты і задачы ўпраўлення фінансавага расследавання. Больш падрабязна спыніўся на спецыфіцы сваёй працы - раскрыцці і расследаванні злачынстваў у сферы падаткаабкладання і прадпрымальніцтва, ілжэпрадпрымальніцтва, ілжэбанкруцтва, ухіленні ад выплаты падаткаў, незаконным адкрыцці банкаўскіх рахункаў за межамі Беларусі...

Следчы засярodзіў увагу студэнтаў на павелічэнні колькасці выпадкаў, калі людзі за 20-25 даляраў рэгіструюць на сваё імя машыну, прыгнаную з-за мяжы і растаможаную за кошт сапраўднага гаспадара. Потым яе прадаюць, і грошы адыходзяць гаспадару, які яшчэ не раз можа здзейсніць гэтую аперацыю няглядзячы на тое, што заканадаўствам дазволены продаж толькі адной аўтамашыны на працягу года без падаткаабкладання. Такім чынам студэнты дазваляюць утаіць ад мытнай інспекцыі сапраўднае імя гаспадара машыны і пазбегнуць падаткаабкладання з продажу другога аўтамабіля.

А на пытанне «за што прысвойваюць званне «Лепшага следчага года»» і як яно ўзнагароджваецца» Мікалай Аліхвер адказаў:

- За якасць у працэсе расследавання, калі ў ім не зроблена памылак. А мінусам для следчых з'яўляецца апраўдальны вырак суда, што можа паслужыць прычынай іх звальнення з працы. Кепска, калі справа прыслана судом на дадатковае расследаванне. За званне «Лепшага следчага» я атрымаў грамату і 10 000 беларускіх рублёў.

**Захар Штрэна**

# Кніга пра бежанцаў з Беласточчыны

**Убачыла свет кніга пад назваю «Бежанства 1915 года», якая выйшла ў Беластоку пад рэдакцыяй Віталя Лубы, галоўнага рэдактара тыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва». У кнізе распавядаецца пра перасяленне жыхароў Заходняй Беларусі ў глыб Расеі.**

Прапанаваны чытачу том змяшчае ў сабе ўспаміны жыхароў сённяшняй Беласточчыны, якія змушана пакінулі месца свайго жыхарства ў 1915 годзе. Кніга змяшчае матэрыялы, сабраныя ў час моладзевых летнікаў, а таксама допісы журналістаў і чытачоў. У раздзеле «Дадаткі» падаецца дакументы таго часу: вопісы маёмасці, даведкі, лісты. Падаецца змест архіўных матэрыялаў ды ілюстрацыі.

**Алесь Зарэмбюк**







# Беларускае сялянства на еўрапейскім скрыжаванні

**Беларусь - прамыслова-аграрная краіна, і істотнай крыніцай даходаў рэспублікі здавён была сельскагаспадарчая вытворчасць. У часіны царскай Расеі мяса і масла з нашых вёсак пастаўлялася на сусветны рынак. Але ўсё гэта засталося ў мінулым. Надышоў час, калі імпартныя прадукты харчавання з Еўропы паступова выцясняюць айчынныя, хаця Беларусь з'яўляецца лідарам у Еўропе па колькасці сельгасугоддзяў і раллі ў разліку на сярэднестатычнага жыхара. Напрыклад, Бельгія, насельніцтва якой складае таксама дзесяць мільёнаў чалавек, апрацоўвае ў сем разоў меней зямлі. А Германія, дзе жыве больш як 80 мільёнаў чалавек, мае ўсяго толькі ў 1,9 раза болей сельгасугоддзяў, чым Беларусь. Пры гэтым, у адрозненне ад дарэвалюцыйных часінаў, вы ніколі не ўбачыце ў Германіі ці Бельгіі беларускага мяса і масла.**

Крыўдна ўсведамляць, што наш селянін сустрэў трэцяе тысячагоддзе ў гумовых ботах і паношанай целагрэйцы, у хаце без выгодаў і часцяком без тэлевізара, з заробкам ад 10 да 20 даляраў.

Як магло здарыцца, што пры мізэрна малой аплаце катаржнай працы нашых сялянаў, выробленыя імі прадукты харчавання маюць неапраўдана высокі кошт і неканкурэнтназдольныя на рынку? У сабекошт імпартных тавараў уключаныя выдаткі на дарагія тэхналогіі, высокая аплата працы вытворцаў. Пры ўвозе імпартных прадуктаў харчавання на мяжы спаганяецца мытная пошліна (яе велічыня складае 10-30 працэнтаў ад вартасці ўвозімай прадукцыі). І нават нягледзячы на гэта, кошт прадуктаў харчавання акупае затраты вытворцаў. Еўрапейскі фермер мае салідныя даходы і адчувае сябе ўпэўнена ў фінанвавым плане, а ў Беларусі - катастрафічна расце спіс стратных сельскіх гаспадарак.

Параўнанне нашай аграрнай статыстыкі з еўрапейскай наводзіць на роздум: альбо беларускія аграрыі працуюць у неверагодна суровых кліматычных умовах, альбо яны - неперасягнутыя лайдакі, і таму не могуць пракарміць свой народ. Аднак, усім нам вядома, што гэта не так. Нашыя сяляне працуюць не ў паўночных умовах, а «гарбацяцца» на зямлі не менш, чым заходнія фермеры. П'юць? Так. Многа і амаль беспрасветна. Але невядома, як запіў бы «імпартны» фермер, калі б апынуўся ён у нашых умовах. Неабходна неадкладна разабрацца з гэтай парадаксальнай сітуацыяй, бо невідушчасць і глухата да аграрных праблемаў вельмі дорага абыходзяцца грамадству і вядуць вёску да катастрофы.

Як ні адна іншая галіна, сельская гаспадарка Беларусі перажывае сёння перыяд крызісу і мае патрэбу ў рэфармаванні. Неабходнасць пераўтварэнняў у вёсцы настолькі відавочная, што пра гэта гавораць ужо шэраговыя працаўнікі калгасаў і саўгасаў. Аднак, улада нічога не прадпрымае для выкаранення немачы, вынаходзіць усё новыя спосабы здабывання грошай для чарговай пасяўной ці ўборачнай кампаніі, шукае магчымасці «накарміць народ» і выратаваць занядбаныя гаспадаркі. Ніхто сёння і не спрабуе растлумачыць, што адбываецца ў нашым аграрным сектары, і зразумець, чаму ў Літвы назіраецца перавытворчасць зерня, а Беларусь у мінулым годзе імпартавала амаль два мільёны тоны зерневых культураў. Не Беларусь, а Літва пастаўляе малочныя прадукты ў ЗША. Нам складаней ацаніць працаздольнасць і кваліфікацыю нямецкага фермера. Але ж літоўскія сяляне дзесяць гадоў таму практычна нічым не адрозніваліся ад беларускіх. Не так даўно А.Лукашэнка ды іншыя высокія чыноўнікі называлі літоўцаў неразумнымі за рэарганізацыю калгасаў і саўгасаў за скарачэнне пасяўных плошчаў. Нават прадказвалі голад у суседняй дзяржаве. Сёння многія з тых, хто крытыкаваў літоўцаў, закупаюць у іх прадукты харчавання, забыўшыся на тое, пра што казалі раней.

Насельніцтву «ўбіваецца» ў галаву, што перавага беларускіх прадуктаў у тым, што яны танныя. Сёння многія разумеюць, што гэта не так. Аграрна-прамысловы комплекс (АПК) за кошт прадпрыемстваў і бюджэту атрымлівае каласальную незваротную падтрымку. У той жа час, мы вымушаныя абараняць нацыянальнага вытворцу прадуктаў харчавання шляхам увядзення значных мытных бар'ераў на мяжы. Гэта робіцца таму, што прадукты, увозімыя без мытных збораў, значна танней за нашыя. Пры



А ў гэтых «фермераў» адны вілы на тры фермы...

беспярашкодным пропуску імпартных прадуктаў харчавання на наш рынак айчынны таваравытворца адразу ж збанкрутуе. Сёння расейскія таваравытворцы маюць свабодны доступ да нашага рынку. Увозячы тавары без пошлінаў, яны заваёўваюць рынак Беларусі. Калі яшчэ такое было? Напрыклад, у 1990 годзе Беларусь паставіла ў Расею больш як 300 тысяч тон мяса і каля аднаго мільёна тон малочных прадуктаў. Што змянілася за гэты час?

Усё, што адбываецца ў нас у аграрным сектары, павінна стаць прадметам аналізу для навукоцаў з улікам рэкамендацыяў практыкаў. Павінны быць выпрацаваныя канкрэтныя прапановы па карэннай змене адносінаў у сельскагаспадарчай вытворчасці.

У Беларусі ёсць шмат спецыялістаў у гэтай галіне, але гэтыя людзі незапатрабаваныя сёння, а плён іх працы марны. Возьмем, да прыкладу, артыкулы аб праблемах сельскай гаспадаркі і шляхах іх вырашэння члена-карспандэнта НАН Беларусі Івана Нікітчанкі. Колькі карыснага і рацыянальнага, на мой погляд, у іх можна прачытаць і выкарыстаць. Аднак, меркаванне кіраўніцтва краіны не супадае з ягоным меркаваннем. Таму, натуральна, рэкамендацыі Нікітчанкі ў разлік не прымаюцца.

Нам трэба выкарыстоўваць механізмы арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, якія ўжо апраўдалі сябе і пацвердзілі сваю жыццяздольнасць у іншых краінах. Нездарма ж кажуць, што разумны вучыцца на чужых памылках, а дурны - на сваіх. Пачынаць аднаўленне сяла трэба ў першую чаргу са змены зямельных адносінаў. Я цвёрда ўпэўнены, што галоўнай мэтай зямельнай рэформы павінна быць перадача пераважнай часткі сельгасугоддзяў у прыватную ўласнасць. Лукашэнка неаднакратна палохаў сялянаў, што на змену яму прыйдзе прэзідэнт, які пачне гандляваць «матухнай» -зямлёй, разгоніць калгасы і забудзецца пра людзей сяла, што згубілі здароўе і маладосць у цяжкой працы. Зямлю «матухнай» называлі, калі селянін песціў кожны кавалачак зямлі, бо яна для яго была карміцелькай. І сёння такія адносіны да зямлі застаюцца ў асабістых падворках, а таксама ў лічаных гаспадарках, якія трымаюцца на энтузіязме і вынаходлівасці іх гаспадароў. Але зямля, якая належыць усім, і адначасова нікому, з «матухны» ператворана ў дзеўку, якую пускаюць па руках, не турбуючыся пра яе прыгажосць і здароўе.

Улічваючы моцнае памкненне нашых вяскоўцаў да калектывізму многія, відаць, захаваюць калектыўную форму гаспадарання. Калектыў сам павінен вызначаць: што вырошчаць, якую прадукцыю вырабляць, каму прадаваць і па якім кошце. А дзяржаву павінна цікавіць у вытворчасці неабходнай яму прадукцыі, як гэта робіцца ў цывілізаваных краінах. Ахвотны ж працаваць індывідуальна павінен мець такую мажлівасць.

Увядзенне прыватнай уласнасці на зямлю абумовіць змену адносінаў паміж вытворцам і дзяржавай. Сёння ва ўпраўленні АПК у Беларусі выразна бачныя прыкметы нават не феадальных, а рабаўладальніцкіх адносінаў. Вытворцы не належаць ні сродкі вытворчасці (зямля, тэхніка), ні вырабленая ім прадукцыя. Яму зверху ўкажуць, каму гэтую прадукцыю аддаць і па якім кошце. Грошы гаспадарцы могуць вярнуць праз год, а то і пазней. І не важна для спадароў чыноўнікаў, што ёсць пакупнік, гатовы заплаціць неадкладна і ўдвая болей. Заўсёды будзе так, як сказаў «рабаўладальнік». Сітуацыя даведзеная да абсурду: калі чыноўнік захоча, то дазволіць вывезці прадукцыю і рэалізаваць больш выгадна, чым на ўнутраным рынку. Аднак, крый Божа вам зрабіць гэта без ягонага дазволу. Дэпутату Вярхоўнага Савета Уладзіміру Кудзінаву гэта каштавала сямі гадоў пазбаўелння волі, а многім іншым - канфіскацыі прадукцыі ды аўтатранспарту, на якім яна вывозілася. Гэта ж як трэба ненавідзець селяніна, каб пазбавіць яго права атрымаць за сваю працу столькі, колькі гэтая праца каштуе, толькі з-за адсутнасці дазволу чыноўнікаў з аблвыканкама! І чаго вартыя размовы пра тое, як клапоціцца дзяржава аб працаўніках сяла, калі селянін, як правіла, н можа свабодна набыць для сябе ў гаспадарцы сотню-другую кілаграмаў зерня, ім жа вырашчанага! Ці не ігэта прычына масавага крадзяжу ў калгасах?

Падчас выступлення перад дэпутатамі новага парламента са штогадовым пасланнем кіраўнік краіны назваў калгасы «грамадска-тэрытарыяльнымі аб'яднаннямі», закліканымі турбавацца пра пенсіянераў, якія жывуць у вёсках. Гэта значыць, перакладае абавязак дапамагаць ім на вытворцу прадуктаў харчавання - калгасы, саўгасы. Дапамога ажыццяўляецца за кошт зніжэння зарплаты даяркі, механізатара, а таксама спецыялістаў, што працуюць у калгасе. Атрымліваецца, што калгас з-за выканання функцыяў яму не ўласцівых, плаціць механізатару меней, чым складае пенсія ягонай маці. Улада ж пры гэтым у апраўданне сваёй бяздзейнасці ўказвае з экрана тэлевізара пальцам на кіраўнікоў гаспадарак, абвінавачваючы іх у цяжкім жыцці вяскоўцаў. Лічу, што дзяржава павінна стварыць таварыствы (арганізацыі), якія б клапаціліся пра пенсіянераў. Дзяржава абавязана ўзяць на сябе расходы па аплаце паслуг, аказваемых гэтым людзям, і зусім не перакладаць іх на плечы калгаснікаў.

Упэўнены, не на карысць людзям улада спрабуе захаваць калгасы, а для таго, каб была мажлівасць трымаць селяніна ў падначаленні. Тыя, хто сёння ля «руля», баяцца, што заможны свабодны чалавек незалежны ад улады. Сённяшнія кіраўнікі ніяк не могуць зразумець, што ў дзяржаве, дзе можна быць багатым не толькі прэзідэнту і яго атачэнню, апорай улады з'яўляецца не рабскі страх, а павага і ўдзячнасць людзей.

Толькі ў калгасах могуць цярпець «тучы» кантралёраў, што прыязджаюць, як правіла, з гарадскіх кватэраў, забыўшыся на пах сяла. Крый Божа, не так сустрэць іх ці нядобра паглядзець. Кожны кіраўнік гаспадаркі можа быць вызвалены ад займаемай ім пасады любым з «візіцёраў» без права працаўладкавання. Не дапамогуць ні ордэны, ні заслугі. Любы кіраўнік можа быць выкліканы (і не адзін раз у дзень!) на «верх», пастаўлены «на выцяжку» ў «высокім» кабінеце, можа развітацца з воляй, калі патрапіць пад руку ўзлаванага начальства. Гаспадаркі пастаўленыя ў такія рамкі, што жыць і працаваць па закону, яны проста не могуць.

Яшчэ адна праблема, якая «забівае» сельскага працаўніка, - цэнавая палітыка. Сёння дзяржава практычна канфіскуе прадукты, вырабленыя сельскім жыхаром без іх аплаты. Калгасам расходы пакрываюцца за кошт датацыяў і незваротных крэдытаў. У выніку літр малака сёння каштуе танней за мінеральную ваду. Што рабіць прыватніку? Куды падзець яму малако ад кароваў з асабістага падворка? З-за гэтага адныя адмаўляюцца трымаць жывёлу, ці як падояць карову, выліваюць малако ў карыта свінням.

Многія пераконваюць, што сённяшнія цяжкасці звязаныя з тым, што нехта ўладам перашкаджае (унутры - ворагі А.Лукашэнкі, звонку - Захад і ЗША). Улада просіць пацярпець, запэўнівае, што надыйдзе дзень, калі ўсё ўпарадкуецца. Аднаго жадання бачыць народ шчаслівым і багатым мала.

Мы маем усё неабходнае для падняцця ўзроўню развіцця сельскай гаспадаркі і росквіту рэспублікі. Багата ў нас сельскагаспадарчых угоддзяў, ёсць падрыхтаваныя высокакваліфікаваныя кадры. Мы ведаем бліскучыя прыклады стыхійнага развіцця сельскай гаспадаркі. Паглядзіце, напрыклад, якія цуды выробляюць на кавалачках зямлі жыхары вёскі Альшаны Берасцейскай вобласці. Там арганізавана цэлая фабрыка па вытворчасці і пастаўцы агуркоў у Расею. Дзяржава ж замест вырашэння іх транспартных праблемаў і непаразуменняў пры перасячэнні межаў дайшла да разбурэння цяпліцаў, пабудаваных вяскоўцамі.

Завітайце ў кватэры гараджанаў у лютым-траўні месяцы. Падаконнікі кожнага другога з іх ператвараюцца ў аранжарэі, дзе вырошчваецца расада перцаў і памідораў, агуркоў і кветак. Я ведаю людзей, якія ў працоўны час, седзячы за сталамі ў дзяржаўных установах, употай клеяць насенне морквы на палоскку газетнай паперы і малююць планы градаў на сваіх дачных шасці-дзесяці сотках. Многія з іх прыехалі ў горад, не жадаючы быць «калгаснікамі», але зусім не супраць стаць фермерамі.

Некалі вёска працавала за «рысачкі». Гэта быў своеасаблівы ўнёсак сельскага працаўніка ў індустрыялізацыю краіны. Надышоў час, калі горад абавязаны дапамагчы вёсцы. Неабходна разавае, моцнае інвеставанне сельскай гаспадаркі. Трэба адзін раз даць вёсцы грошы, але не на патанненне сельгаспрадукцыі, а на тэхналагічнае абсталяванне і ўкараненне новых інтэнсіўных тэхналогіяў апрацоўкі зямлі ды вытворчасці мясамалочнай прадукцыі. Надалей вёска здолее працаваць на ўмовах самаакупаемасці, пастаўляючы гораду якасныя і танныя прадукты харчавання. Калі ж стымуляваць высокатэхналагічную перапрацоўку выробленай прадукцыі на месцах, у гаспадарках, укараняючы міні-перапрацоўныя лініі, моладзь не стане з'язджаць з родных мясцінаў.

Сёння дзяржава выдаткоўвае вялізныя сродкі на падтрымку сяла, але накіроўвее іх не на развіццё, а на бесперспектыўныя, непрадуманыя мэты. Такія затраты толькі паглыбляюць крызіс. Да тых часоў, пакуль на зямлі будзе працаваць раб, а не гаспадар, грамадства будзе марна траціць грошы, а селянін - выміраць як клас.

**Міхаіл Чыгір**

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Усе ушуісты з медалямі

**На мінулым тыдні гарадзенскія ушуісты вярнуліся з Варшавы, дзе пад патранажам прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага праходзіў сёмы адкрыты чэмпіянат Польшчы па барацьбе УШУ. Апрача гаспадароў, у ім прынялі ўдзел зборныя Беларусі, Расеі, Кітая, Швецыі, Балгарыі ды іншых краінаў.**

У склад беларускай зборнай уваходзілі і чацвёра гарадзенцаў - Валерый Яньгі (у вазе да 56 кілаграмаў), Юрый Варыс (да 60 кг), Яўген Пятроў (да 65 кг), Павал Абозны (да 70 кг), - якія з'яўляюцца выхаванцамі спартовага клуба «Best», створанага пры Гарадзенскай абласной федэрацыі кікбоксінгу і тайландскага боксу. А ўзначальваў нашу дэлегацыю прэзідэнт федэрацыі Шабсадзін Абасаў.

Увесь квартэт гарадзенскіх ушуістаў са сталіцы Польшчы вярнуўся з медалямі. Яўген Пятроў атрымаў бронзу, а ўсе астатнія ушуісты, на жаль, саступілі ў фіналах і заваявалі срэбныя ўзнагароды. Вось што сказаў на гэты конт Шабсадзін Абасаў:

- Усе нашыя спартсмены павінны былі перамагаць, і яны выглядалі лепей за астатніх. Але ж іх нахабным спосабам «засудзілі» суддзі.

# Гарадзенскія алімпійскія дні моладзі

**З 25-га па 28-е красавіка ў гарадзенскім фізкультурна-аздараўленчым комплексе «Юбілейны» праходзілі «Алімпійскія дні моладзі па плаванню» сярод юнакоў і дзяўчатаў 1984/85 гадоў нараджэння. Арганізатарамі спаборніцтваў выступалі Міністэрства спорту і турызму РБ, Упраўленне па фізічнай культуры, спорту і турызму Гарадзенскага аблвыканкама і Беларуская Федэрацыя плавання.**

Не на апошніх ролях тут былі прадстаўнікі мясцовых школаў па плаванню. Так, у асабістым першынстве на дыстанцыі 400 метраў комплексным плаваннем першыя два месцы сярод юнакоў занялі гарадзенцы Сяргей Казлоў і Артур Шчадрын, а на дыстанцыі 400 метраў вольным стылем лепшы вынік паказаў яшчэ адзін гарадзенец Аляксандр Гразар. Сярод дзяўчатаў адзначылася гарадзенка Ірына Няфёдава, якая першынствавала на 100-метроўцы вольным стылем.

Былі першымі юнакі Гарадзенскай вобласці і ў эстафеце 4х100 метраў вольным стылем. Дзяўчаты ў эстафеце 4х200 метраў фінішавалі другімі.

# «Сухая» перамога «Нёмана»

**Першую перамогу ў XI чэмпіянаце па футболу атрымаў гарадзенскі «Нёман-Белкард».**



У трэцім туры «Нёман» у Брэсце сустракаўся з мясцовым «Дынама». Статыстыка супрацьстаяння гэтых дзвюх камандаў за дзесяць мінулых чэмпіянатаў сведчыць пра пераканаўчую перавагу гарадзенцаў. Яны ў 18 гульнях перамаглі 12 разоў, дзве сустрэчы закончылі ў нічыю і чатыры прайгралі. Розніца мячоў 18:27 на карысць гарадзенцаў.

Пасля даволі няўдалага старту, калі нёманцы ў папярэдніх двух турах набралі адно ачко і не забілі пры гэтым ніводнага мяча, у горадзе над Бугам футбалісты «Нёмана» здолелі тройчы засмуціць брамніка «Дынама» (Сяргей Давыдаў і двойчы Дзмітрый Дзенісеня). Тым самым гарадзенцы ў гэтым чэмпіянаце атрымалі першую «сухую», буйную перамогу. Цікава, што ўпершыню ў гісторыі суверэннага чэмпіянату «Нёман» не прапусціў у Брэсце ніводнага мяча. За дзень да гульні асноўнага складу «Нёман-2» згуляў з «Дынама-2» - 0:0.

Пасля трох тураў «Нёман-Белкард» займае з чатырма ачкамі восьмае месца. А лідыруюць у чэмпіянаце «Белшына», «Славія» і «БАТЭ», у якіх па сем ачкоў. Наступную гульню гарадзенцы праводзяць шостага траўня ў Гродне з наваполацкім «Нафтанам-Дэвонам».

Следам за вышэйшым стартаваў чэмпіянат і ў першае лізе, дзе нашу вобласць прадстаўляюць тры клубы: слонімскі «Камунальнік», «Ліда» (яны ў мінулым сезоне пакінулі вышэйшы дывізіён) і мастоўскі «Нёман». У першым туры «Камунальнік» перамог «Тарпеда» (Жодзіна) 1:0 (Мажэйка), а «Нёман» і «Ліда» падзялілі ачкі з «Рагачовам» і «Свіслаччу» адпаведна 2:2 (галы на рахунку Крупіцы) і 0:0.

КАЛЕЙДАСПОРТ

## Ці застанецца Беларусь у Лізе мацнейшых?

28 красавіка ў Германіі распачаўся 65-ы чэмпіянат свету па хакею ў мацнейшым дывізіёне.

Чацвёрты год запар у сусветным першынстве прымае ўдзел зборная Беларусі, якая патрапіла ў групу «А» разам са зборнымі Чэхіі, Швейцарыі ды Германіі.

Паразы падапечных Анатоля Варывончыка ў першых дзвюх групавых гульнях ад чэхаў 5:1 і швейцарцаў 5:2 зрабілі беларусаў аўтсайдарамі групы нават нягледзячы на апошнюю групавую гульню (2 траўня) з гаспадарамі турніра. Цяпер беларусы павядуць барацьбу за права застацца ў элітным дывізіёне. Нагадаем, што на папярэдніх чэмпіянатах свету нашыя землякі займалі восьмае і двойчы дзевятае месцы.

## Пытанне за паркетам

Гарадзенскі баскетбольны клуб «Гродна-93» 27-28 красавіка ў Адэсе ўдзельнічаў у «Фінале чатырох» турніра «NEBL Challenge Cup».

Параза ў паўфінале ад літоўскай «Аліты» (92:88) і перамога ў матчы за трэцяе месца над ангельскім «Бірмінгенам» (86:83) - вынік удзелу гарадзенцаў у «Фінале чатырох». Вось што сказаў на гэты конт карэспандэнту ПАГОНІ прэзідэнт фонда падтрымкі «Гродна-93» Леанід Каток: «Усе каманды квартэту мацнейшых атрымалі запрашэнне да ўдзелу ў наступным сезоне ў асноўным чэмпіянаце ПЕБЛ. Толькі неабходна вырашыць адміністрацыйна-гаспадарчыя пытанні. Што датычыцца «Гродна-93», то пакуль у нас няма баскетбольнага паркету, каб гуляць у Лядовым палацы, і сучасная гатэля. Гэтыя пытанні мы будзем абмяркоўваць на сённяшняй сустрэчы (2 траўня) з нашым старшынём аблвыканкама».

**Дзяніс Курчэўскі**



Па гарызанталі: **7.**Адзіная дзяржава ў Еўропе, уладам якой не па сілах суверэнітэт. **8.**Нашыя «браты малодшыя» ў няволі. **10.**І піянерскі, і канцэнтрацыйны. **11.**Казачная страшэнная істота. **12.**Поўны набор касцей. **14.**Якар для карабля. **16.**Чаго не мае цынік? **17.**Сваяк рэдзькі па «саладосці». **19.**Буцы для футбаліста. **20.**Што носіць жанчына, стаўшы ўдавою? **24.**2,54 см. **25.**Сход, сімпозіум. **26.**Пуховая пасцілка на ложак. **30.**Што панеслі праціўнікі на полі бою? **31.**Сувязісты пры гужавым транспарце. **32.**Кармавая бабовая расліна. **33.**Чыстасардэчнае прызнанне. **34.**Хто абвергнуў вучэнне Пталямея?

**Па вертыкалі:** **1.**Куст ці дрэва сямейства вярбовых. **2.**Натоўп. **3.**Казачны каваль Вярнідуб па сваіх фізічных дадзеных. **4.**Буйназярністы жоўты пясок. **5.** «Амарзелы» знак прыпынку. **6.**Марка нямецкага аўтамабіля. **9.**Салёны ідэал для застолля. **13.**Беларускае «мора». **15.**Услон як хатняе начынне. **17.**Што даюць на лапу? **18.**Лекавая расліна. **21.**Нікчэмны чалавек. **22.**Другі хлеб беларуса. **23.**Лякарства для абязбольвання. **27.**У Сярэдняй Азіі яго называюць арчою. **28.**Правілы паводзінаў у грамадстве. **29.**Цяжкі кавалерыст у Францыі XIII-XVII стст. **32.** Рэжык ножыка.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N17 (513)**

Па гарызанталі: 7.Няпраўда. 8.Чыноўнік. 10.Абора. 11.Пікадор. 12.Вулкан. 14.Гусляр. 16.Бізун. 17.Здор. 19.Дзітва. 20.Жывёла. 24.Пуня. 25.Крыга. 26.Сакрат. 30.Хлапец. 31.Аўтамат. 32.Келіх. 33.Кнігарня. 34.Заручыны.

Па вертыкалі: 1.Вярнідуб. 2.Гародня. 3.Эдуард. 4. «Жыта». 5.Корбут. 6.Кісларод. 9.Дойлід. 13. «Мужык». 15.Лазня. 17.Золак. 18.Іверс. 21.Сумленне. 22.Ягайла. 23.Садавіна. 27.Артыкул. 28.Гектар. 29.Махнач. 32.Каня.

# Вегетарыянцаў запрашае аздараўленчая база «Гармонія»

**Возера Свіцязь - запаведнае месца Беларусі: чысцейшая гаючая вада, дзіўная прырода, прываблiваюць вялікую колькасцю турыстаў і спецыялістаў-эколагаў. У нашай краіне засталося не так шмат чыстых, запаведных зонаў. Як правіла, яны засяляюцца людзьмі, якія ўсведамляюць і разумеюць сваю адказнасць перад нашчадкамі, тымі, хто прыйдзе на гэтую Зямлю пасля нас.**

Нашыя дзеці вымушаныя «расхлёбваць» памылкі бацькоў. Мы павінны навучыць дзяцей цаніць тое, што дае ім прырода, Сусвет. Аздараўленчая база на беразе возера Свіцязь носіць назву «Гармонія». Настаўнікі, педагогі хочуць дапамагчы дзецям раскрыць свой патэнцыял, усвядоміць уласныя таленты і здольнасці. Практычныя заняткі па валеалогіі, што ўключаюць у сябе цыклы гутарак, займальныя гульні, даюць веды, якія датычаць здаровага ладу жыцця, правільнага харчавання. Траватэрапія, лепка з гліны, купанне ў Свіцязі - усё гэта вабіць дзяцей і ўзмацняе іх фізічнае і псіхічнае здароўе.

Праграма «Гармонія» разлічаная на пяць дзён. Кошт пуцёўкі - 20 умоўных адзінак. Пражыванне ў драўляным двухпавярховым доме, на хутары (150 кіламетраў ад Менска, накірунак - Берасцейская шаша) без выгодаў (прыбіральня і ўмывальнікі - на вуліцы). Ёсць лазня, калодзеж, склеп, хлеў. Вялізны яблыневы сад, агарод. Харчаванне - вегетарыянскае, трохразовае, з полуднем для ахвотных.

Магчымы варыянты для тых, хто прызвычаены да мясной ежы. У праграме - паход да панскага двара блізу аздараўленчай базы «Гармонія». Узрост дзяцей - ад 5 да 17 гадоў. Адначасова праграму могуць праходзіць 15 дзяцей і двое дарослых, што будуць іх суправаджаць.

**Заяўкі на чэрвень і ліпень прымаюцца да 25 траўня па тэлефоне (017) 252-00-53 з 9.00 да 13.00 (па пятніцах) і з 10.00 да 13.00 (па суботах і нядзелях). У жніўні мы запрашаем на Свіцязь сямейныя пары, жанчынаў з дзецьмі. Кошт тыднёвай пуцёўкі на тры чалавекі - 50 умоўных адзінак у разліку на ўсіх членаў сям'і. Запіс па вышэйуказаным тэлефоне будзе праводзіцца да першага чэрвеня бягучага года.**

**Ул. інф.**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Паспрабуйце пазбягаць двухсэнсоўных недагаворванняў, якія могуць абумовіць Вашыя фінансавыя страты. Захоўвайце цвярозы погляд на жыццё.

♉ **Бык (21.04-20.05).** У Вашу галаву прыйшла цікавая ідэя, што не дае Вам спакою, пакуль застаецца нерэалізаванай? Рызыкуйце ж, калі гэта не пашкодзіць ні Вам, ні людзям.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Вам будзе не на жарт ва ўсім шанцаваць. Так што рабіце вялікія стаўкі. Аднак памятайце: калі Вы знашлі на шчасце падкову, значыць, нехта іншы адкінуў капыты.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Калі Вы не распешчаны кулінарнымі прысмакамі чалавек, дазвольце сабе атрымаць асалоду ад рэстаранных далікатэсаў. Пастарайцеся разумна чаргаваць працу з адпачынкам.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Загадкавасць і рамантычнасць зробяць Вас яшчэ больш прывабным(-ай) для процілелага полу. Крыху сціпласці ды непасрэднасці - і Вы апынецеся на сёмым небе ад дасягнутых поспехаў.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Не шкадуйце грошай на самаадукацыю, яны абавязкова акупяцца. У Вас з'явіцца шмат творчых ідэяў і задумаў, якія Вам удасца з лёгкасцю ажыццявіць.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Свежае паветра і актыўнасць - вось што дапаможа Вам пазбегнуць праблемаў са здароўем. Не забудзьцеся разнастаіць свой штодзённы рацыён харчавання.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Калі не жадаеце апынуцца паміж молатам і кавадлам, не даводзьце сябе да крайняй ступені гневу ні дома, ні на працы. Лепей падтрымлівайце добрую фізічную форму.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Ваша фінансавае становішча, нарэшце, стабілізуецца. Бо ўдалыя здзелкі прынясуць Вам неблагі прыбытак. Калі часам будзе непакоіць астэахандроз - дапаможа мануальня тэрапія.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Нават самым суровым супернікам давядзецца адступіць пад Вашым жорсткім націскам у дасягненні запланаванага. Як кажуць, насарог кепска бачыць, але пры ягонай вагавай катэгорыі гэта ўжо не яго праблемы.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** На гэтым тыдні не варта паддавацца адмоўным эмоцыям. Успышка гневу злева, успышка гневу за спіною? Што ж, выкарыстайце вырытую для Вас яму пад акоп.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Значную частку Вашых фінансавых рэсурсаў могуць паглынуць непрадбачныя выдаткі. Таму ўстрымайцеся ад спакусы марнаваць грошы на тое, што мо і не патрэбна, але хай будзе.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 2.05.2001 г. Замова 1 522 Наклад 8 075

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк
Камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей